Актуаліі



# Другое чаканне Маўра

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

"...У маім уяўленні Янка Маўр застаўся даверлівым, шчырым, цікаўным і хітраватым, як вялікае дзіця.

Успамінаецца, як у час з'езда беларускіх пісьменнікаў у 1954 годзе ён падышоў да мяне ў перапынку. Гэта было ў фае тэатра Янкі Купалы. У калідоры тэатра няма крэслаў, і я села на падваконнік. Іван Міхайлавіч весела ўсміхнуўся і сеў побач. "Вось так і трэба! — сказаў ён. — Для таго, хто піша для дзяцей, не павінна быць умоўнасцей. Сядзіш на падваконніку і адчуваеш сябе, як у дзяцінстве!"

> *У гутарках з дзецьмі Я.Маўр імкнуўся прывіць этыку паводзін, неабходную для рэалізацыі станоўчых якасцей школьнікаў, умеў дыягнаставаць узровень развіцця іх светапогляду.*

Мне даводзілася досыць часта выступаць разам з Янкам Маўрам у Мінскім палацы піянераў і школьнікаў. Нягледзячы на хваробы ён ніколі не адмаўляў дзецям: прыходзіў, шчыра гутарыў з імі. І кожны раз, нібыта ўпершыню, расказваў адзін эпізод. "На адной сустрэчы хлопчык спытаў мяне: "Вось я чытаў "Палескія рабінзоны" і не магу зразумець, дзе Мірон і Віктар бралі вяроўкі, каб звязаць бандытаў?" І з нязменным здзіўленнем Іван Міхайлавіч гаварыў: "Вось бачыце, я і сам не заўважыў таго, што заўважылі мае чытачы! Калі і ў вас знойдзецца якая-небудзь заўвага, — пытайцеся, пішыце, буду вам удзячны!"

Працэсы сацыяльнай адаптацыі, фарміраванне асобы дзіцяці ў сістэме педагагічных катэгорый — гэта тэма, відаць, хвалявала аўтара твораў "У краіне райскай птушкі" (1928 г.), "Сын вады", "Амок" (1929 г.), "Палескія рабінзоны" (1930 г.), "ТВТ" (1934 г.), які звярнуўся да школьнікаў па радыё, абгрунтаваўшы неабходнасць чытання кніг.

З выступлення Я.Маўра па радыё (1976 г.):

"Калі я вучыўся ў пачатковай школе, усе мы тады мала чыталі кніг.

Але аднаго разу я напісаў добрае сачыненне і настаўнік даў прачытаць кнігу "Хижина дяди Тома". І я гараваў, што такую кнігу далі прачытаць, такую тоўстую кнігу. Я паглядзеў малюнкі. Патрымаў я гэтую кнігу дні 3-4 і аддаў настаўніку. Ён узяў і схаваў гэтую кнігу ў шафу, нават не спытаў, ці прачытаў я яе. Ну я і рады, што не спытаў. Значыць — выкруціўся.

Пасля таго, гады праз тры, мне трапілася другая кніга. Майн Рыда, як памятаю. Я прачытаў яе. І пераканаўся, што кнігі вельмі карысная і цікавая справа. Заўважыў я: вучыцца зусім лёгка зрабілася. Калі ў мяне самога былі дзеці, тады ўжо я ўсялякімі спосабамі прыахвочваў іх да чытання кніг. Пайшла ў іх справа добра, і "4" і "5" неяк самі пайшлі. А як я шкадую тых, хто не чытае кніг!"

У ГУТАРКАХ з дзецьмі Я.Маўр імкнуўся прывіць этыку паводзін, неабходную для рэалізацыі станоўчых якасцей школьнікаў, умеў дыягнаставаць узровень развіцця іх светапогляду. Пісьменнік-педагог, вызначаючы ўмовы аптымальнага развіцця светапогляду дзяцей, мог даць цэласнае ўяўленне аб прыродзе, грамадстве праз сістэму абазначаных каштоўнасных ідэалаў асобы.

Разам з тым празаіка хвалявалі дэвіянтныя паводзіны падлеткаў, псіхарэакцыя паводзін дзяцей, матываванасць іх учынкаў. Ён даводзіў:

"Шчыра дзякую вам за добрыя водгукі пра мае кнігі. Гэта мая самая вялікая ўзнагарода. Адну такую ўзнагароду я меў ад шафёра таксі. Вёз ён мяне на сваёй машыне, коса пазіраў і ўсміхаўся. А потым і кажа: "Ці ведаеце вы, што я адзін з вашых рабінзонаў?". Вядома, я вельмі здзівіўся. І тады ён расказаў, што ў 4 класе яны, тры Толікі, прачытаўшы "Палескіх рабінзонаў", уцяклі з дому. Аднаго злавілі ў Гомелі, дваіх — у Адэсе. Я пакрыўдзіўся і кажу яму: "Чаму ж вы ўцяклі так далёка, калі вам спадабаліся героі Палесся". Мой "рабінзон" толькі мог адказаць: "дурныя былі".

Але я вам скажу, пры ўсіх выпадках — кнігі чытаць карысна. І раю вам — чытайце кнігі заўсёды, яны вам патрэбны, як паветра. Калі вы палюбіце кнігі і будзеце многа чытаць, то "4" і "5" самі пасыплюцца ў дзённікі. А двойкі вам будзе цяжка атрымаць, калі вы і захочаце, бо начытаны вучань не будзе казаць глупства, калі нават і не вывучыў урокі. Запомніце добра, сябры, "тот, кто с книгой по жизни шагает, никогда и нигде не пропадет".

Я ПЕРАКАНАНЫ: менавіта Я.Маўр прадвызначыў сваёй аповесцю "ТВТ" эстэтычную праграму дзеяння (гайдараўскія цімураўцы яшчэ пісаліся), якая сёння набыла рэальную форму міжасабовых зносін і дыялогу ў клубах па інтарэсах, у клубных аб'яднаннях, студыях асобаснага росту, адукацыйных секцыях "Я і сусвет", аб'яднаннях юных псіхолагаў (занятак апошніх — трэнінг). Праз гульню (структурны сродак арганізацыі сюжэтна-кампазіцыйнага матэрыялу), праз тайну (невядомасць выніку), Маўр вывеў сваіх герояў на прадметнае поле калектыўнай творчасці.

Што датычыцца маўраўскай канцэпцыі самасцвярджэння асобы, то яна сёння знаходзіць вырашэнне ў праграме "Арыенцір" у малодшых класах, дзе пастаўлена задача праз калектыўна-гульнявую дзейнасць сфарміраваць у дзіцяці цэласны светапогляд. Маўраўская канцэпцыя актыўнага героя абапіралася на сістэму гуманістычных каштоўнасцей, развівалася, кажучы па-сённяшняму, праз сацыяльна-культурную мэту, вызначаную фактарам рэфармавання школы ў святле новай, распрацаванай вучонымі канцэпцыі навучання і выхавання дзяцей.

Нагадаем "Палескіх рабінзонаў". У ракурсе сённяшняга дня гэты твор — пачатак мадыфікаванай школы выжывання ў экстрэмальных сітуацыях выбару. Менавіта Я.Маўр як педагог вызначыў праблему асабістага эксперыменту, вучыў жыццю праз разумовую дзейнасць, гульню, выкарыстаўшы, ужо як пісьменнік, асаблівую спецыфічную жанравую форму аповесці, што і дазволіла яму ўключыць герояў у сістэму сацыяльна-маральных сувязей. Шкада, аднак, што пісьменніка, які абазначыў контуры сваёй культурна-асветніцкай парадыгмы (а на яе сёння абапіраюцца педагогі) недаравальна забылі. Вазьміце ў рукі праграму па беларускай літаратуры для 5-11 класаў 2000 г. У праграму творы Я.Маўра не ўключаны. Ніводзін. Толькі ў 5 класе вучням рэкамендавана азнаёміцца ў якасці пазакласнага чытання з аповесцю "Палескія рабінзоны". На адным узроўні аказаўся Я.Маўр з В.Зубам, М.Вадановым, чые слабыя ў мастацкіх адносінах творы "Таямнічы надпіс", "Скарб Загорскай камяніцы" (як, дарэчы, і твор У.Краўчанкі "Таямніца адной выспы") аднесены да катэгорыі "для пазакласнага чытання". Штосьці тут не так, паважаныя складальнікі праграмы з лабараторыі літаратурнай адукацыі нашага Нацыянальнага інстытута адукацыі. Нават у рэкамендацыйны спіс па літаратуразнаўстве (дадатак 1, стар.229) не трапіла манаграфія М.Яфімавай "Цэлы свет — дзецям".

Няма пісьменніка — няма і праблем?

"Прынцыпова новай якасцю праграм з'яўляецца іх зарыентаванасць на вывучэнне беларускай літаратуры ў суадносінах з сусветнай" — гаворыцца ў тлумачальнай запісцы праграмы сярэдняй агульнаадукацыйнай школы з беларускай і рускай мовамі навучання. Зыходзячы з гэтага прынцыпу навукоўцы ўключылі ў спіс для пазакласнага чытання творы замежных аўтараў: А.Конан-Дойла, Дж.Купера, Ж.Верна, М.Рыда, В.Скота, В.Гюго, Д.Дэфо, А.Дзюма. І для агляду — "Уладар над мухамі" У.Голдзінга і Э.Сетан-Томпсана — для чытання і абмеркавання.

Гэтым самым складальнікі праграмы па сутнасці далі настаўніку магчымасць шляхам параўнальнага аналізу растлумачыць вучням сацыяльна-маральную дэфармацыю персанажаў твораў замежнікаў — таго ж Голдзінга ці Сетан-Томпсана — і камунікатыўную дзейнасць герояў Я.Маўра, калі б творы апошняга былі ўключаны ў абавязковую праграму для вывучэння на ўроках. Самі па сабе мастацкія творы актуальнага на сёння Я.Маўра адпавядаюць зместу наватарска-педагагічных ідэй Л.С.Выгоцкага: "Ахапіць дзіця сістэмай сацыяльна-маральных сувязей у школе — гэта адзін бок выхавання, а другі — навучыць рабіць уласны выбар на аснове маральных прынцыпаў і норм жыцця".

ЯНКА Маўр — заснавальнік прыгодніцкага жанру і фантастыкі (жанр уяўляе сабой сімбіёз прытчы, казкі, фальклору, эмацыянальнага кантрасту і асацыятыўнага паралелізму, сімволіка-алегарычнай умоўнасці, драматычнага імператыву дыялагічнага характару). Прыгода "як якасць эстэтычнага раду" (вызначэнне вядомага даследчыка А.Вуліса) адыгрывае значнае месца ў творах М.Лынькова (сфармуляваў рамантычны стыль героіка-патрыятычнай аповесці, разглядаючы праблему гераічнага як псіхолага-сацыяльную), Ул.Караткевіча (выявіў дыялектыку сувязі агульнага, адзінкавага, адшукаўшы карані нацыі ў гісторыі), Л.Дайнекі (твор "Меч князя Вячкі" вывучаецца ў школе), які давёў форму аповесці да метафарычнасці, падаўшы прыгоду праз гісторыю, Ул.Паўлава (твор "Пажарніца" рэкамендаваны для пазакласнага чытання). Апошні не паслухаўся прыхільнікаў падзейнай эпатажнай аповесці, а даў узор твора псіхалагічнага кшталту. Я.Маўр жа, расцэньваючы чалавека як часцінку сацыяльнага свету, сцвярджаў агульнае, інтэрнацыянальнае, распрацоўваў характары, бачачы ў іх форму праяўлення грамадскай псіхалогіі.

Субстанцыя гульні ў прыгодніцкіх творах Я.Маўра — гэта асацыятыўная сувязь паміж сацыяльным статусам дарослых і дзяцей, узнаўленне страчанай гармоніі, адсутнасць якой сказваецца на змесце крытэрыяў дарослaсці герояў. Па сутнасці, аўтар прыгодніцкай аповесці ў 30-я гады ўзняў актуальную праблему перабудовы чалавечага мыслення. Звярнуўшыся да парадаксальна-зваротнай ідэнтыфікацыі сітуацыі (калі не дзеці бяруць прыклад з дарослых, а наадварот), ідучы "ад праціўнага", Я.Маўр ў "ТВТ" імкнуўся высвеціць псіхалагічна-сацыяльную праблему: дарослыя абавязаны ставіцца з разуменнем да ўнутранага свету маладога пакалення, якое фарміруе сваю самасвядомасць і камунікатыўныя якасці, выхоўваючы ў сабе ініцыятыву, самастойнасць, адказнасць,

> *Шкада, аднак, што пісьменніка, які абазначыў контуры сваёй культурна-асветніцкай парадыгмы (а на яе сёння абапіраюцца педагогі), недаравальна забылі. Вазьміце ў рукі праграму па беларускай літаратуры для 5-11 класаў 2000 г. У праграму творы Я.Маўра не ўключаны. Ніводзін. Толькі ў 5 класе вучням рэкамендавана азнаёміцца ў якасці пазакласнага чытання з аповесцю "Палескія рабінзоны".*

спадзеючыся аднак, на падтрымку дарослых.

Настаўніку трэба, відаць, убачыць гэтую прыхаваную, унутраную тэму "бацькоў і дзяцей". Тэма бацькоў і дзяцей у асвятленні Я.Маўра — гэта імкненне аўтара да сінтэзу прамой і зваротнай сувязі, неабходнасць якой выяўлена аўтарам праз мастацкую метафару. Безумоўна, перабудова свядомасці герояў аповесці "ТВТ" звязана з ломкай застойных стэрэатыпаў, выклікае ў дарослых рэакцыю неразумення: яны ставяць пад сумненне шчырасць памкненняў маладых. Працягваючы паказ гульні, аўтар пераводзіць яе ў плоскасць камедыйных сітуацый (член ТВТ выклікаў падазрэнне ў настаўнікаў тым, што ўзяўся добраахвотна, згодна са статутам таварыства, адрамантаваць пашкоджаную таварышам табліцу — можа, сам вінаваты? Поркаючыся з паштовай скрыняй, яны сталі разблытваць зблытаныя электраправады, у выніку чаго наклікалі на сябе бяду (дворнік палічыў, што на дрэва забраліся хуліганы). Тым не менш усё, што робяць Паўлік Рагатка, Клава Макейчык, аб'явіўшы вайну рэчам, становіцца рэальнасцю, прымушаючы дарослых перагледзець свае вывады і ацэнкі. Выкладчыку беларускай літаратуры на гэтым прыкладзе можна прасачыць, як адбываецца зліццё прамой і зваротнай сувязі. Скарачаючы дыстанцыю паміж героямі, Я.Маўр звяртаецца да вытокаў народнай маралі, выступаючы супраць аднабаковага руху душы героя.

Матыў народнай мудрасці (цуда — чалавек, які клапоціцца пра другіх, але малайчына і той, хто разумее добрыя памкненні чалавека) тут апрадмечаны. Хлопчык узляцеў на клумбу, папсаваў кветкі. Людзі абурыліся паводзінамі хлапчаняці, якое з месца здарэння вокамгненна знікла. Да клумбы падышла дзяўчынка, вярнула кветкам ранейшае становішча. Людзі пачалі хваліць дзяўчынку (гэта была член ТВТ Клава Макейчык).

Выкарыстоўваючы публіцыстычную манеру пісьма, празаік прапануе чытачу паразважаць. Чаму здзівіліся людзі? Толькі што жанчына вярнула кветкам ранейшы выгляд, а хлопчык паставіў на месца камень. Кожны лічыў, што так і павінна быць. А калі тое самае зрабіла Клава, то людзі здзівіліся, ухваліўшы ўчынак дзяўчынкі. Чытач здагадваецца, у чым тут сакрэт. Жанчына выправіла тое, што зрабіла яе дзіця, хлопчык выправіў тое, што зрабіў сам, а Клава выправіла тое, што зрабіў, не падумаўшы, іншы. Але ж добрую справу дзяўчынка зрабіла па сваёй ініцыятыве. Вось гэта і было тое новае, незвычайнае, да чаго людзі не прызвычаіліся. Менавіта ў кульмінацыйным моманце твора — сінтэз прамой і зваротнай сувязі. Жанчына, якая станоўча адгукнулася пра ўчынак Клавы, расказвае другой аб тым, што сустракала дзяўчынку раней — тая прыбрала з дарогі калючы жалезны прадмет, які мог пашкодзіць кола чыйгосьці аўтамабіля.

Ступень напружанасці прыгодніцка-бытавой аповесці Я.Маўра не змяншаецца, калі пісьменнік уводзіць герояў у кола грамадскіх праблем, не адыходзячы ад маральна-эстэтычных прынцыпаў грамадзянска-патрыятычнага пачатку, гуманістычных ідэй, афарбаваўшы ўчынак героя ў танальнасць дабрачыннасці.

Гэта так: абраная аўтарам форма аповесці садзейнічае арганічнаму сінтэзу жыццёвай праўды з рамантычным пачаткам. Я.Маўр працягвае паказ асобы, у якой увасоблены лепшыя рысы сучасніка. Такім чынам, спалучэнне супрацьлеглага — часовага пачатку і алегарызму мастацкай формы — служыць у Я.Маўра каталізатарам грамадскіх ідэй у спалучэнні з прынцыпамі рамантызацыі рэчаіснасці (незалежна ад рэалій абстаноўкі). Вырашаючы праблему асобы і калектыву шляхам паказу працоўнага ўдзелу кожнага піянера ў свядомай практычнай дзейнасці, аўтар прапагандуе творчы пачатак праз фактар гульні, якая становіцца катэгорыяй псіхалагічна-выхаваўчай.

Я.Маўр зацікаўлівае, паказваючы, як атрыманы навык становіцца патрэбнасцю, а патрэбнасць працаваць — стымулам прафарыентацыйнай накіраванасці. Гаворачы словамі дыдакта-гуманіста Я.А.Каменскага — "призванием к большой жизни". Зліўшы педагагічную ідэю, зарыентаваную на фарміраванне калектыўнага пачатку праз індывідуальны стыль і накірунак дзейнасці асобы, з мастацкай, Я.Маўр паказаў, як адбываецца працэс фарміравання здольнасцей, выпрацоўваюцца якасці, неабходныя для рэалізацыі жыццёвых планаў. Іншымі словамі, Я.Маўра прыцягнула праблема паказу не толькі аб'ектыўных магчымасцей герояў, але і значнасць шырокай сацыяльнай арыентацыі іх з улікам індывідуальнасці. Не абыходзячы праблем прафесійнага самавызначэння, ён, акцэнтуючы ўвагу на змесце дзейнасці героя, абагульняе ідэалы эстэтычныя.

У аповесці — загадкавая арганізацыя ТВТ рассакрэчана, аднак ніхто ад гэтага не страціў, бо гульня стала масавай не толькі ў асяроддзі дзяцей. Адбылося набыванне духоўнага пачатку. Аднак Я.Маўр палемічны і тут: любая добрая грамадска-карысная справа не павінна лічыцца нейкай асаблівай з'явай.

Дарослыя, а сярод іх ёсць і такія, хто гатовы скардзіцца калгаснаму кіраўніцтву на цвік у плоце, усё ж дзякуюць дзецям за ініцыятыву (тыя майструюць, даводзяць да ладу рэчы). Ці варта дзякаваць за тое, што павінна стаць нормай жыцця — прымушае задумацца аўтар.

ПРАБЛЕМА аховы прыроды ўзнята Я.Маўрам у "экалагічнай" прыгодніцкай аповесці "Палескія рабінзоны". Пісьменнік, беручы на сябе ролю арнітолага, батаніка, біёлага, растлумачыў чытачу шматграннасць форм жыцця жывёл, раслін. Ён сцвердзіў ідэю матэрыяльнасці свету, пераканаў чытача: чалавечы вопыт абапіраецца на дасягненні ўсіх папярэдніх пакаленняў. Разам з тым светапоглядная дамінанта аповесці складаецца з паказу прыроднага і чалавечага фактараў.

У пошуках узаемадзеяння паміж агульным і індывідуальным аўтар вытлумачвае тут працэс пазнання дыялектычна (пра гэта сведчаць дыскусіі паміж Міронам і Віктарам аб прыродзе і грамадстве).

Героі "Палескіх рабінзонаў" разумеюць асаблівасці ландшафту, могуць растлумачыць спецыфіку ледніковых адкладанняў на мясцовасці. Віктар і Мірон знаходзяцца ў свеце прыроды, яны кожны раз адкрываюць штосьці новае для сябе. Яны зацікаўленыя хлопцы. Сустрэча з новым аналізуецца кожны раз у аспекце толькі пазнавальным, але і псіхалагічным. Аматара заалогіі Віктара і нястомнага батаніка Мірона з героямі Сетан-Томпсана ("Маленькие дикари") аб'ядноўвае пачуццё пазнання. Тым не менш героі замежнага аўтара не адчуваюць патрэбнасці ў эстэтычным перажыванні. Адрозніваюцца і абставіны, у якіх дзейнічаюць героі твораў. Мірон і Віктар, па метадзе старажытных людзей, здабываюць агонь, не маючы запалак, выкарыстоўваючы ў гэтых мэтах "дынамамашыну" (сабраную з дошчачак). Для Сэма і Яна — агонь не клопат. З дапамогай трута агонь здабывае Кларк, паляўнічы, які ўвесь час знаходзіцца каля дзяцей. Героі Маўра самі пабудавалі жытло без сякеры. Героі Сетан-Томпсана будуюць у лесе ціпі па ўзоры індзейцаў, маючы пад рукамі нажы і сякеру. Маўраўскія героі калеюць на холадзе. Сэм і Ян прыхапілі ў дарогу коўдру, у начны час, калі Сэм і Ян спяць, іх тайна наведваюць бацькі. Сэм і Ян па вечарах калоцяцца ад страху, баючыся з'яўлення ляснога духа-баншы. У Мірона і Віктара гэты факт выклікаў бы, напэўна, пачуццё жалю. Сэм і Ян не забіваюць птушак. Аднак гэта прадыктавана не ўсведамленнем каштоўнасці пярнатых, а ўяўленнем забабоннага характару. Героі Сетана-Томпсана — хлопцы па натуры жорсткія. Сустрэўшыся з вавёркай-ляцягай, "дзікуны" ссякаюць дрэва. Звярок гіне. А вось сустрэча герояў Маўра з ляцягай мае характар зацікаўленасці, выклікае дыскусію.

Сэм і Ян жорстка распраўляюцца з янотам. Мірон і Віктар у аналагічнай сітуацыі паводзяць сябе па-іншаму. Знайшоўшы нямоглых барсукоў у лесе, яны прыносяць звяроў "дадому".

> *Настаўніку трэба, відаць, убачыць гэтую прыхаваную, унутраную тэму "бацькоў і дзяцей". Тэма бацькоў і дзяцей у асвятленні Я.Маўра — гэта імкненне аўтара да сінтэзу прамой і зваротнай сувязі, неабходнасць якой выяўлена аўтарам праз мастацкую метафару.*

Характэрна, што ў замежнай літаратуры, якая распрацоўвае тэму рабінзанады, паказ далучэння герояў да прыроды вядзе да негатыўнай пераацэнкі маральных каштоўнасцей, да праяўлення, кажучы словамі Горкага, "звярынага анархізму". У герояў, скажам, У.Голдзінга ("Уладар над мухамі"), паралізаваны духоўны пачатак, што, па сутнасці, і прыводзіць іх да фізічнай гібелі. Першая пралітая кроў кружыць ім галовы, выклікае імкненне абнявлавіць свет прыроды. Пісьменнік намячае той бар'ер, пасля якога героі ягонага твора ператвараюцца ў звяроў. Асабліва запамінаецца ў творы замежнага аўтара размова двух патэнцыяльных забойцаў, што страцілі пачуццё чалавечай годнасці, трапіўшы на востраў пасля авіякатастрофы.

"— Я смотрел, куда ткнуть, — сказал Джек, — и немного опоздал.

— Нужно было заколоть его, и все тут, — со злостью сказал Ральф. — Кабанов колют.

— Им перегрызают горло, чтобы выпустить кровь, — возразил Джек. — А иначе мясо нельзя есть.

— Так почему же ты не...

Они прекрасно знали, почему: потому что гнусно убивать живое существо, так как вид крови невыносим".

КАЛІ пошук прыгод для герояў У.Голдзінга — самамэта, то для Віктара і Мірона — абставіны іншага парадку. Пранікаючы ў творчую лабараторыю празаіка, пачынаеш усведамляць сакрэт задумы Маўра, які мадэлюе прыгоду. Прымушае, напрыклад, задумацца эпізод з выратаваннем ад смерці пагранічніка Саўчука, якога бандыты прывялі на востраў пад канвоем. Здаецца, вопытны вайсковец пасля таго, як бандыты з дапамогай Віктара і Мірона былі звязаны, павінен быў сам застацца ахоўваць гэтых падонкаў да тае пары, пакуль хлопцы не вернуцца на востраў з падмогай. Варыянт канваіравання бандытаў наяўнымі сіламі адпадаў: палонных са звязанымі рукамі па кладках багавіння правесці было немагчыма. Чаму ж не Віктар і Мірон накіроўваюцца на заставу? Давяраючы маладым героям вялікія справы, празаік хацеў паглядзець, як справяцца з адказнай задачай сябры. Мірон і Віктар выканалі даручэнне старэйшага таварыша, праявілі арганізатарскія здольнасці, калектывізм, пачуццё локця. У рызыкоўнай сітуацыі абазначыліся характары абодвух — гарачнасць Віктара і памяркоўнасць Мірона. Калі Віктар схіліўся над вогнішчам, бандыт схапіў яго за шыю, імкнучыся другой рукой вырваць у юнака рэвальвер. Віктар запатрабаваў, каб Мірон страляў. Рацыянальны, спакойны Мірон аднак не стрэліў. Сябрук растлумачыў правамернасць свайго ўчынку так: калі б ён стрэліў, то мог бы параніць і Віктара, бо абое счапіліся ў барацьбе. Калі б рэвальвер, даводзіць Мірон, мог быць прыстаўлены да галавы бандыта, той, магчыма, адхіліўся б ці выбіў зброю. А калі Мірон засунуў рэвальвер за каўнер бандыту, той ужо нічога не мог зрабіць. Мірон і Віктар выспяваюць духоўна.

Уводзячы аповесць у рэчышча рамантычнага напрамку, аўтар не парушыў адзінства і пераемнасці жанравай формы. І апошняе. Дарэмна некаторыя крытыкі сцвярджалі, што сённяшнім хлопчыкам і дзяўчынкам "сумна быць толькі каля Мірона і Віктара", бо яны "значна багацейшыя за маўраўскіх герояў" (Ванкарэм Нікіфаровіч, газета "Літаратура і мастацтва" ад 13 ліпеня 1965 года).

> *Зліўшы педагагічную ідэю, зарыентаваную на фарміраванне калектыўнага пачатку праз індывідуальны стыль і накірунак дзейнасці асобы, з мастацкай, Я.Маўр паказаў, як адбываецца працэс фарміравання здольнасцей, выпрацоўваюцца якасці, неабходныя для рэалізацыі жыццёвых планаў.*

Нікіфаровіч не ўлічыў аднаго: справа не ў аддаленасці ў часе. Справа ў маральнай пазіцыі Мірона і Віктара, у іх светапоглядзе. Бескампраміснасць герояў Маўра — катэгорыя маральная. А героі радуюць сваёй актыўнасцю, умеюць пастаяць за сябе, умяшацца, не праходзячы міма несправядлівасці.

Патрыёт-пісьменнік любіў жыццё, радаваўся поспехам людзей. Ён так выказваўся аб усім гэтым, вызначаючы сваё месца ў грамадскім жыцці рэспублікі: "Няма большага шчасця для чалавека, чым служэнне Радзіме. Бачыш, ганарацца, радуюцца ўсе людзі поспехам за кароткія пасляваенныя гады. Самому хочацца быць дастойным гэтых вялікіх спраў. Унесці ў іх і сваю маленькую лепту.

Цяпер у мяне сілы ўжо не тыя, але імкненні, планы не паменшыліся. Я закончыў пісаць апавяданне "Цётка Эмілія". У ім расказваецца аб простых людзях Італіі, якія ўсе свае сілы аддаюць высакароднай справе — барацьбе за мір. Зараз я працую над кнігай аб падарожжы на так званай машыне часу. Акрамя таго, мне хочацца скончыць распачаты твор "Дзённік неспакойнага хлопчыка". Думаю напісаць кнігу аб рамесніках, а таксама аб тым часе, калі сам вучыўся ў вучылішчы. Хочацца паказаць гераічную барацьбу ў Карэі і В'етнаме.

Я лічу найвялікшым шчасцем, што кнігі, напісаныя мной, чытаеце і вы, школьнікі. Я заўсёды з нецярпеннем чакаю вашых водгукаў. Для вас жа асабліва радасна працаваць: вы — наша будучыня". (З выступлення Я.Маўра па рэспубліканскім радыё).

ДРУГОЕ чаканне Я.Маўра... Яно аб'ектыўнае: гэтага хочуць настаўнікі, вучні, бацькі, грамадскасць, якая праз некаторы час будзе адзначаць юбілей вялікага падарожніка, чалавекалюба-гуманіста. Вас чакаюць у школе, Іван Міхайлавіч!

**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ,**
**дырэктар Светлаборскай сярэдняй школы**
**Пухавіцкага раёна.**

НА ЗДЫМКУ: у краіне палескіх рабінзонаў.

**Фота Ю.БОНДАРАВА.**



XI Міжнародныя шагалаўскія дні прайшлі ў Віцебску. У іх праграме — адкрыццё выставы "Марк Шагал. Графіка 1960-1970 гадоў", свята "Паклон вялікаму майстру" і літаратурна-музычная кампазіцыя "У гасцях у Марка і Бэлы".
НА ЗДЫМКУ: кветкі да помніка Марку Шагалу ў Віцебску.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.

Жыццё музея

# Святло Купалавага дома

***Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы размясціўся ў жывапісным куточку сталіцы, недалёка ад набярэжнай ракі Свіслач. Дзеці і дарослыя, жыхары Беларусі і іншых краін усхвалявана адчыняюць ягоныя дзверы, каб дакрануцца да дзівоснага свету вялікага песняра.***

Чым жыве сёння музей? Як працуе? Пра гэта — размова карэспандэнта з загадчыцай навукова-экспазіцыйнага аддзела музея **Глафірай Васільеўнай КУШАЛЬ** і вучоным сакратаром музея **Аленай Уладзіміраўнай БУРБОЎСКАЙ**.

**— Па якіх накірунках вядзецца сёння работа музея?**

— Па розных. Гэта і вывучэнне, прапагандаванне спадчыны Янкі Купалы, і стварэнне, адкрыццё новых філіялаў музея, арганізацыя выставак, правядзенне сустрэч з пісьменнікамі, іншымі дзеячамі культуры...

**— Дзе адбываюцца гэтыя сустрэчы?**

— У актавай зале музея. Там жа ладзяцца тэматычныя вечары, конкурсы, выставы.

**— Але ж не ўсе прыхільнікі творчасці Я.Купалы могуць наведаць музей у адпаведныя дні...**

— Супрацоўнікі музея выязджаюць у школы, іншыя навучальныя ўстановы краіны, нават у дзіцячыя садкі, летнікі, санаторыі з лекцыямі, гутаркамі, перасоўнымі выставамі. Апошнім часам такія выставы дэманстраваліся у мінскай школе № 19 імя Я.Купалы, у ПТВ № 107, гімназіях № 8, 10 і інш.

**— А як супрацоўнічае музей са школамі, якія носяць імя Янкі Купалы?**

— Супрацоўніцтва музея з купалаўскімі школамі даўняе, глыбокае, мае свае традыцыі. Так, штогод праходзяць калядныя сустрэчы купалаўскіх школ. А ў маі мінулага года адбыўся злёт вучняў такіх школ. Гэтаму папярэднічала вялікая падрыхтоўчая работа. Быў аб'яўлены конкурс на лепшае сачыненне пра Я.Купалу і яго радзіму, рэспубліканскі конкурс дзіцячых паэтычных твораў, малюнкаў, іншых мастацкіх работ (вышывак, ляпніны). У конкурсе прынялі ўдзел сем купалаўскіх школ з розных населеных пунктаў краіны. Але на аб'яву аб конкурсе адгукнуліся і іншыя навучальныя ўстановы, якія не носяць імя Я.Купалы. Яны прынялі ўдзел у выставах па-за конкурсам.

**— Чым адметныя купалаўскія школы?**

— У многіх такіх школах ёсць цудоўныя музеі Янкі Купалы. Так, музей Сенніцкай школы лічыцца лепшым школьным музеем у рэспубліцы. А які выдатны музей у Бяларуцкай школе! У некаторых школах ёсць экспазіцыі, якія, як і школьныя музеі, папаўняюцца з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

**— Як дапамагаеце вы школьным музеям?**

— Пераважна фотаздымкамі, ксеракопіямі рукапісаў, друкаванымі творамі, творамі мастацкай і літаратурнай купаліяны.

**— Якія яшчэ цікавыя традыцыі мае Дзяржаўны літаратурны музей Я.Купалы?**

— Стала традыцыяй праводзіць міжнародныя купалаўскія чытанні. Яны збіраюць гасцей і з Беларусі, і з замежжа. Так, у снежні 2000 года прайшлі пятыя міжнародныя купалаўскія чытанні. У іх бралі ўдзел вучоныя Польшчы, Англіі, Літвы, Латвіі, Расіі. Чытанні паказалі, што творчасць Я.Купалы значна глыбей па сваім змесце, чым гэта раней уяўлялася літаратурным крытыкам. Таму адразу ўзнікла ідэя: з усім новым, што прагучала на чытаннях, пазнаёміць настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры рэспублікі. З гэтай мэтай быў арганізаваны навукова-практычны семінар, які адбыўся 16 мая гэтага года. Да семінара была створана унікальная выстава "Святло Купалаўскага асяроддзя". На семінары выступалі знакамітыя вучоныя — прафесары Уладзімір Конан, Міхась Мушынскі, Вячаслаў Рагойша. Настаўнікі прыехалі да нас з усёй рэспублікі. Прысутнічалі і навучэнцы педкаледжа — будучыя педагогі, вучні школ.

**— Што, на ваш погляд, было найбольш карысным для настаўнікаў на гэтым семінары?**

— Выступленні тэкстолагаў Інстытута літаратуры імя Я.Купалы, якія многа гадоў працавалі над падрыхтоўкай выдання поўнага збору твораў Янкі Купалы ў дзевяці тамах. Зусім у новым аспекце даследуе сёння творчасць паэта кандыдат філалагічных навук Зміцер Санюк. Ён раскрывае глыбокую духоўнасць народа ў творах Я.Купалы.

Вельмі ўразіла настаўнікаў выступленне заслужанага артыста Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Віктара Манаева. Артыст расказаў пра Купалу словамі самога Купалы, уклаўшы ў іх свой талент, эмоцыі, сваё адчуванне свету Я.Купалы. А ў канцы семінара педагогі атрымалі мажлівасць выехаць у адзін з філіялаў музея — Акопы, дзе вучоныя расказалі больш падрабязна пра пецярбургскі перыяд творчасці паэта.

**— Чым яшчэ адметнае жыццё музея апошняга часу?**

— Нядаўна адкрыты новы філіял музея ў Маладзечанскім раёне — "Яхімаўшчына". Ён ужо чацвёрты па ліку (раней створаны філіялы "Вязынка", "Ляўкі", "Акопы"). Экспазіцыя расказвае пра нараджэнне Я.Купалы як нацыянальнага паэта. Менавіта ў вёсцы Яхімаўшчына ў 1906-1907 гг. Я.Купала рыхтаваў свой першы паэтычны зборнік "Жалейка".

Размяшчаецца экспазіцыя ў трох залах, адзін з якіх — мемарыяльны пакой. Тут жыў, мроіў, тварыў пясняр...

Яшчэ адна навіна: у нашым музеі ў сувязі з купалаўскімі днямі адкрыта выстаўка з фондаў музея "Як крыніца, рвецца, льецца з сэрца песня". Мэта выстаўкі — паказаць адлюстраванне творчасці паэта, яго самога як асобы ў творчасці беларускіх мастакоў. Дэманструюцца партрэты Я.Купалы, работы мастакоў рэспублікі, ілюстрацыі да яго твораў, выданні твораў паэта, ілюстраваныя беларускімі мастакамі. Дарэчы, гэтыя кнігі атрымалі дыпломы, іншыя ўзнагароды на міжнародных конкурсах па мастацкім афармленні кнігі.

**— А ці ёсць у навуковых супрацоўнікаў музея новыя цікавыя задумкі?**

— Да 120-годдзя з дня нараджэння паэта, якое будзе шырока адзначацца ў наступным годзе, плануем ушанаваць мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю Янкі Купалы, стварыць новую перасоўную выстаўку. Плануецца таксама рээкспазіцыя літаратурнай часткі музея ў філіяле "Вязынка". Наперадзе — новыя сустрэчы з прыхільнікамі творчасці вялікага песняра. Вокны Купалавага дома будуць па-ранейшаму свяціць людзям, вабячы ў свет паэта з яго марамі, спадзяваннямі, высокаю малітваю за Беларусь:

"Малюся я небу,
зямлі і прастору,
Магутнаму Богу —
усясвету малюся,
Ва ўсякай прыгодзе,
ва ўсякую пору
За родны загон Беларусі!".

*(Я.Купала. Верш "Мая малітва")*

**Святлана МІЦКЕВІЧ.**

Для вас, настаўнікі, вучні

# Карпілаўкі вада крынічная

## Новае пра Ядвігіна Ш.

***У беларускім літаратуразнаўстве Уладзімір Ільіч Содаль больш вядомы як біёграф Францішка Багушэвіча. Аднак апошнім часам пошук гэтага даследчыка і пісьменніка прасцёрся на іншыя постаці нашай літаратурнай мінуўшчыны. Пабачыла свет яго новая кніжка "Карпілаўка".***

Што такое лагойская Карпілаўка з пункту гледжання аўтара? Звычайнае селішча, якіх шмат на беларускай карце. Але ў той жа час гэта — і мясціна нацыянальнага пакланення: тут, у маляўнічым кутку пад Радашковічамі, правёў свае лепшыя гады адзін з пачынальнікаў беларускай прозы, пісьменнік і палітычны дзеяч Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.).

Не закранаючы палітычных поглядаў Ядвігіна Ш, аўтар кнігі даследуе вытокі душэўнага багацця гэтай асобы. І перш за ўсё адзначае вялікі ўплыў, які аказала на фарміраванне любові да Беларусі ў маладога Лявіцкага прыгажосць родных мясцін.

"З усіх бакоў сядзібу атуляў лес. У нізовіне, у лясных абдымках, бруілася-гаманіла віхляючы на карнявішчах, ручаінка з крынічкай. З поўначы, як баба-векавуха, расселася вялізная гара. На самым версе гары — магутны Дуб-Дзядуля. Магутны прысадзісты дуб красаваўся і паблізу гары. Пара дубоў і пры крынічцы. Непадалёку рознакалерная лугавіна з азярцом. І над ўсёй гэтай прыгажосцю і цішай — глыбокае блакітнае неба з белымі ватнымі, нібы ярачкі, хмуркамі, аблачынкамі..."

Мова Содаля — сакавітая, яна нясе павеў цяпла, плавіць лёд занядбання. Чытаеш, і хочацца ісці насустрач таму, хто сваім талентам пракладваў на пачатку мінулага стагоддзя шлях да нацыянальнай годнасці і незалежнасці. Паволі, разам з аўтарам, перажываеш усё тое, што хвалявала Ядвігіна Ш., адкрываеш для сябе сцяжыны, якімі ён некалі хадзіў, даведваешся пра яго родных, сяброў і паплечнікаў.

Адметнасць "Карпілаўкі" ў тым, што, рыхтуючы яе, Уладзімір Ільіч амаль не карыстаўся апасродкаванымі, ужо вядомымі фактамі. У аснове кнігі — асабісты аўтарскі пошук, яго сустрэчы і перапіска з роднымі Ядвігіна Ш., знаёмымі, даследаванні архіўных дакументаў, шмат фотакартак.

Чытаючы гэты невялічкі па аб'ёме твор, адкрываеш таксама невядомыя факты з жыцця Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Палуты Бадуновай. Душэўным і добрым увогуле паўстае Язэп Лёсік, які зачасціў у Карпілаўку ў 1917 годзе: "Ён у траўні вярнуўся з Сібіры, але адразу ж, як патрапіў у Мінск, укруціўся ў вір грамадскага і палітычнага жыцця. Яму таксама хацелася хоць раз пабачыць родную Беларусь вольнаю. А час спрыяў. Дзеля гэтага ён не шкадаваў ні сілы, ні здароўя. Яму лёсіла напаткаць і такую ж апантаную Беларуссю дзяўчыну. Гэтай дзяўчынай сталася Ванда Лявіцкая". Адносіны з Ядвігіным Ш. склаліся даволі прыязныя. Лёсік і сам пісаў. Таму творчасць свайго цесця цаніў высока.

Кожны эпізод з жыцця пісьменніка, кожную яго сустрэчу ці то з радашковіцкім урачом Янам Офенбергам, ці то з беларускамоўным ксяндзом Янам Вольскім, ці то з іншымі наведвальнікамі Карпілаўкі Содаль апісвае ў вышэйшай меры душэўна, рупіцца пра дакладнасць кожнай дробязі. І калі ў канцы твора ён вымушаны падвесці чытача да развітання з Ядвігіным Ш., становіцца зразумелым, якога Сына страціла Беларусь. Гэта, бадай, і ёсць галоўнае значэнне "Карпілаўкі".

Напэўна, тут можна было б і скончыць, але нельга не сказаць і пра наступнае. Уладзімір Ільіч выдаў важную для дзяржавы кніжку за ўласны кошт. Яго папярэднія захады наконт далучэння да гэтай справы аддзела культуры Лагойскага райвыканкама не далі вынікаў, а аддзел адукацыі пасля ўжо яе выхаду ў свет "паспрыяў": узяў дзесятак кніжак на рэалізацыю. Такім чынам, мясцовая ўлада адхрысцілася ад прыватнай ініцыятывы, і лагойскія вучні цяпер не хутка даведаюцца аб жыццёвых пуцявінах свайго славутага земляка. Хаця кніга магла б стаць не толькі добрым падарункам на выпускным балі, а і вучэбным дапаможнікам для выкладчыкаў літаратуры ў школе. Гэтая акалічнасць дазваляе звярнуцца да тых, хто па-сапраўднаму любіць і шануе творчасць Ядвігіна Ш.: калі будзе жаданне набыць "Карпілаўку", званіце Уладзіміру Ільічу Содалю ў Мінск па тэлефоне 264-78-48. Аўтар прадае кнігу даволі танна.

**Віктар ХУРСІК.**

# Рыжыкі

## (Апавяданне)

Восеньскія вечары ды ночы — сапраўдная пакута для старых людзей. Чытаць і глядзець немагчыма, бо слепнуць вочы. Не спіцца, бо бяссонне. А ноч — як год. Застаецца адзінае — успамінаць калег па працы, былых вучняў. Тым і жывуць старыя.

Зрэдку непакоіць тэлефон. Як сёння. "Школа слухае", — зняўшы трубку, гаворыць Андрэй Пятровіч.

— Ну, што "школа слухала"? — пытае жонка.

Былы дырэктар толькі ўздыхнуў: не забываецца мінулае — тое, чаму прысвяціў жыццё. А Паліне Мікалаеўне адказаў: "Чакай гасцей, зараз будуць твае незабыўныя "апосталы", ці, як ты іх яшчэ называла "рыжыкі".

— А, Вялікі Божа, — успляснула рукамі жанчына, — радасць якая! — І паспяшалася агледзець кватэру. А госці ўжо на парозе...

— Дабро ў гэтую хату! — заракаталі, запоўніўшы моцнымі галасамі пакоі, унеслі хваёвы водар і сланечнікавае ззянне, паколькі былі яны, госці, рыжымі. Шчыра пацалавалі гаспадыню, паціснулі старэчую руку гаспадара.

— Каб не хваляваліся, — прамовіў Павел. — Мы транзітам, наперадзе — шлях у сталіцу. Вязём здабыткі навацый, што выпрабавалі на раздоллі палёў ды ў лясных нетрах.

Святлейшы "рыжык" быў кіраўніком унітарнага прадпрыемства, а больш рыжы — загадваў лясгасам. Спачатку, як водзіцца, тары-бары, потым пра здароўе і сямейныя справы.

— Ад гэтага ляснога валацугі збегла ў горад яго краля, — зрабіў выснову Пятро. — Не вытрымала ляснога шуму, але ў падарунак пакінула спадкаеміцу. А ў мяне, як у добрых людзей: хлопчык і дзяўчынка, ужо школьнікі.

— І адзін жывеш? — спалохалася Паліна Мікалаеўна.

— Не хвалюйцеся, — супакоіў Павел. — Злавіў такую чарнабурку, што на свеце прыгажэй і не бывае.

Размовы былі доўгімі, усе распытвалі адзін аднаго. Раптам госці ўсклікнулі.

— Хвіліначку! — і на выхад...

Вярнуліся з падарункамі: дзве скрыні з ігрушамі ды яблыкамі, варэння шмат рознага, нізкі сушаных баравікоў. У адзін голас урачыста прамовілі: маўляў, удзячнасць ад нашых жанок за выхаванне... І развіталіся, дамовіўшыся пра новую сустрэчу пасля нарады.

Калі яны, шумлівыя, мужныя, узнёслыя, пакінулі кватэру, стала незвычайна ціха і быццам пацямнела...

— Ну што ты на гэта скажаш? — першай загаварыла Паліна Мікалаеўна.

— Не скажу, а запытаю, — прамовіў Андрэй Пятровіч. — Адкажы, чаму ў нас ёсць вось такія кіраўнікі — памяркоўныя, разумныя, гаспадарлівыя, а вёска не багацее?..

І заспрачаліся — гуманітарый з біёлагам.

— Ты, чалавеча, уцям сабе, што не ўсё залежыць ад такіх малайцоў... Прычына ў іншым: запусцілі мы зямлю-матухну — мала давалі, а шмат бралі. А яе не накорміш абяцанкамі. І што гаварыў Пятро?.. Я запомніла і магу слова ў слова пераказаць.

У прыродзе існуюць дзве супрацьлеглыя сілы: адна — сіла рэгенерацыі, якая напаўняе ўсё жыццём і рухам, яна — прадуктыўная, карысная і жыватворная. Гэта — сіла жыцця.

У процівагу ёй дэгенерацыя ёсць дынаміка разбуральнасці, яна вядзе да распаду, стымулюе ды паскарае разлажэнне і гніенне, забруджванне і атручванне, што прыносіць хваробы... Вось і ўсё... Зразумеў? — тлумачыла Паліна Мікалаеўна быццам якому двоечніку. А Андрэй Пятровіч згубіў сэнс яе ўпартага тлумачэння і толькі здзіўляўся яе ўменню ўсё даводзіць да яснасці.

Ёсць у гэтай настаўніцы іскра Божая. І гэта менавіта яна ў свой час прыблізіла, прытуліла, а потым і ў калектыў прыняла двух адрынутых, над якімі насміхаліся, нават здзекаваліся. Яны сталі людзьмі паважанымі, і вось толькі гадзіну таму былі тут. Удзячныя за ўсё.

А Паліна Мікалаеўна памаўчала, пакуль муж выходзіў са сваёй задуменнасці, і працягвала:

— А залежыць усё ў жыцці ад таго, што ў вучоных мае назву "мікраарганізмы". Патрэба, каб усе пра гэта ведалі, а не толькі "рыжыкі". Мабыць таму і запрасілі нашых хлопцаў на сімпозіум. І я дорага дала б за тое, каб іх паслухаць.

— Не хвалюйся, растлумачаць і дакажуць, — усміхнуўся Андрэй Пятровіч, — бо яны ж прайшлі тваю школу... А ведаеш, калі сустракаешся з такімі малайцамі, не страшна і паміраць — застануцца надзейныя, разумныя і працавітыя людзі...

— Ну, не, — запярэчыла Паліна Мікалаеўна. — Я хацела б, каб Усявышні даў магчымасць пабачыць усё. І як тая рэгенератыўная сіла яшчэ падзейнічае на нас, нашых дзяцей і вучняў...

На гэтым пагадзіліся і супыніліся, каб абысці бяссонніцу, скараціць ноч. Вялікі цуд гэта — узаемаразуменне і згода ў старасці. Шчасце — адно на дваіх.

**Уладзімір КАРАЛЬКОЎ,**
**ветэран вайны і педпрацы, выдатнік асветы БССР, СССР.**

Адміністрацыя Партызанскага раёна Мінска, аддзел адукацыі і калектыў сярэдняй школы № 10 смуткуюць з прычыны смерці заслужанага настаўніка БССР, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, былога дырэктара сярэдняй школы № 10 УРУБЛЕЎСКАГА Яўгена Аляксандравіча, а таксама выказваюць спачуванне родным і блізкім памерлага.

Лексіс

# Пра разнабой у выкарыстанні тэрмінаў і іх мэтазгоднасць

***Для таго, каб падручнік адпавядаў свайму прызначэнню, патрэбны не толькі навукова абгрунтаваныя адбор і падача тэарэтычнага ды ілюстрацыйнага матэрыялу, прадуманая сістэма практыкаванняў, але і дакладнае, мэтазгоднае выкарыстанне тэрмінаў.***

Як ВЯДОМА, цяпер (у адрозненне ад мінулых дзесяцігоддзяў) навучанне беларускай мове адбываецца на аснове падручнікаў і дапаможнікаў, падрыхтаваных некалькімі аўтарскімі суполкамі. Пашырэнне кола аўтараў, удзел многіх кваліфікаваных лінгвістаў у стварэнні навучальнай літаратуры, безумоўна, спрыяе павышэнню яе навукова-метадычнага ўзроўню. Разам з тым гэтая шматаўтарнасць — адна з прычын пэўнай нескаардынаванасці выкладу тэарэтычных звестак у розных падручніках, непаслядоўнасці, неаднастайнасці тэрмінаўжывання.

Так, у падручніках беларускай мовы прапануюцца варыянты ці сінонімы (на першае месца ставім больш прыдатны): *аўдыраванне — аўдзіраванне, афіцыйна-справавая лексіка — афіцыйна-дзелавы стыль, дзейная асоба — дзеючая асоба, няпэўныя займеннікі — неазначальныя займеннікі, паяснёнае слова — паясняемае слова, самастойная (паўназначная) часціна мовы — знамянальная часціна мовы* і інш.

Разгледзім адзін прыклад больш падрабязна. У падручніках беларускай мовы назіраецца разнабой пры выкарыстанні даўняга граматычнага тэрміна — *дзеепрыметнікавы зварот і дзеепрыметны зварот*. Перавагу трэба аддаваць першаму варыянту; як адзіную норму яго кадыфікуюць "Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў" (Мн., 1990) П.У.Сцяцко, М.Ф.Гуліцкага, Л.А.Антанюк і "Русско-белорусский словарь лингвистических терминов" (Мн., 1988) пад рэдакцыяй М.В.Бірылы і П.У.Сцяцко.

Форма *дзеепрыметнікавы* адлюстроўвае спецыфіку беларускага тэрмінаўтварэння, яе натуральнасць і заканамернасць пацвярджаецца аналагічнымі вытворамі ад назваў іншых часцін мовы: назоўнік — *назоўнікавы, прыметнік — прыметнікавы, лічэбнік — лічэбнікавы, займеннік — займеннікавы* і г.д.

Варыянт *дзеепрыметны* ўзнік пад уплывам рускага *причастный*. Дарэчы, у рускай мове ад назваў некаторых граматычных класаў прыметнікі ўвогуле не ўтвараюцца. У такім разе непазбежны зварот да запазычанай лексікі. Напрыклад: *существительное* (назва часціны мовы) — *субстантивный* (адпаведны прыметнік), *прилагательное* (назва часціны мовы) — *адъективный* (адпаведны прыметнік).

Не ўзяўшы пад увагу гэтай акалічнасці, некаторыя беларускія лінгвісты — следам за рускімі — часам без патрэбы ўжываюць тэрміны "субстантыўныя словазлучэнні", "ад'ектыўныя словазлучэнні" або "словазлучэнні з назоўнікам у ролі галоўнага слова", "словазлучэнні з прыметнікам у ролі галоўнага слова" замест зручнейшых (асабліва ў школьным навучанні) "назоўнікавыя словазлучэнні", "прыметнікавыя словазлучэнні".

Мы закранулі дзеепрыметнік толькі ў адносінах яго назвы як словатваральнай базы некаторых лінгвістычных тэрмінаў. Увогуле ж дзеепрыметнік у беларускай мове ўяўляе значную цяжкасць для вывучэння і практычнага выкарыстання. Не даведзена да канца яго навуковае даследаванне, не кадыфікаваны ў якасці нарматыўных спецыфічныя формы, напрыклад, *кіраваны, калыханы, разгляданы* як адпаведнікі рускіх *управляемый, колышемый, рассматриваемый*.

Традыцыйна адрозніваюць неспрагальныя (інфінітыў, дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе) і спрагальныя, асабовыя формы дзеяслова. У навуковых граматыках формы першай групы маюць і іншыя назвы: вербоіды, нефінітныя формы дзеяслова.

А вось адна з самых новых лінгвістычных прац — "Современный русский язык. Теория, анализ языковых единиц" (М., 2001) разглядае дзеепрыметнік ("причастие") і дзеепрыслоўе ("деепричастие") як самастойныя сінкрэтычныя часціны мовы, г.зн. якія аб'ядноўваюць адпаведна прыкметы дзеяслова і прыметніка, дзеяслова і прыслоўя. Такім чынам, дзеепрыметнікі і дзеепрыслоў і выходзяць за межы ўласна дзеяслова.

Некаторыя беларускія лінгвісты і метадысты, у прыватнасці аўтары падручніка "Беларуская мова" для сёмага класа школ з рускай мовай навучання (Мн., 1997) і "Праграмы сярэдняй агульнаадукацыйнай школы з рускай мовай навучання. Беларуская мова. 5-11 класы". (Мн., 2000), акрэсліваюць дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе як **асобыя формы дзеяслова.**

Абгрунтоўваючы сваю пазіцыю, аўтары гэтага падручніка падаюць і распрацоўваюць дапаможную тэму пад назваю "Асабовыя і асобыя формы дзеяслова". Адзначаецца, што дзеяслоў мае некалькі формаў: 1) неазначальную, 2) асабовыя, 3) асобыя.

Няцяжка заўважыць, што колькасць відаў пададзеных у параграфе формаў (3) не адпавядае ліку названых у загалоўку (2). Адна форма дзеяслова — неазначальная — апынаецца па-за рамкамі класіфікацыі. І ўжо гэта сведчыць пра няслушнасць прапанаванай групоўкі. Неазначальную форму трэба таксама аднесці (паводле тэрміналогіі падручніка) да "асобых".

А цяпер — што да правамернасці тэрміна "асобыя формы дзеяслова". У беларускай мове функцыянальна-стылістычны статус слова *асобы* не атрымаў бясспрэчнага акрэслення. Але з якім бы значэннем ні ўспрымалася гэтае слова — "адметны, асаблівы" ці "асобны" (не згадваем "асобага аддзела"), яно не падыходзіць як граматычны тэрмін. Па сутнасці, усякая форма ёсць нешта адметнае, асобнае. Асобныя і асаблівыя формы існуюць у розных часцінах мовы. Дый у дзеяслова тая самая **асабовая** форма адначасова з'яўляецца **асобай**.

Словазлучэнне *асобыя формы дзеяслова*, тым болей у супастаўленні (яно выявілася і ў назве параграфа "Асабовыя і асобыя формы дзеяслова"), не з'яўляецца тэрміналагічным, у ім не адлюстравана істотная прыкмета пэўнай катэгорыі слоў, як гэта ёсць, напрыклад, у тэрміне "неспрагальныя формы дзеяслова".

У адпаведнасці з прыведзенай кваліфікацыяй дзеепрыметніка і дзепрыслоўя аўтары згаданага школьнага падручніка вымушаныя былі даць практыкаванне, якое мае на мэце дапамагчы вучням зразумець і засвоіць словы *асабовы* і *асобы*. Пабочным негатыўным вынікам гэтага стала ўскладненне і без таго цяжкай працы над раздзелам "Дзеепрыметнік".

Зрэшты, каб не наўмысна роблены акцэнт на аднакаранёвіках *асабовы* і *асобы* і міжвольна ўзніклая, непажаданая тут паранімія, дык само слова *асобы* (лепш: *асобны*) магло б выкарыстоўвацца пры характарыстыцы дзеепрыметніка і дзеепрыслоўя ды ўспрымаецца нароўні з іншымі агульнаўжывальнымі словамі.

Увядзенне ў школьны ўжытак тэрміна *асобыя формы дзеяслова* не ёсць развіццё тэорыі гэтай часціны мовы ці ўзбагачэнне методыкі яе выкладання, а таму не з'яўляецца навукова і практычна мэтазгодным.

**Алесь КАЎРУС,**
**дацэнт БДПУ імя Максіма Танка, кандыдат філалагічных навук.**

Выставы

# Случчына шчодрая на таленты

***Спрадвеку славілася Случчына сваімі пісьменнікамі, паэтамі, крытыкамі. Яна — радзіма Міхаіла Арсеньевіча Лазарука, знакамітага крытыка, літаратуразнаўцы, педагога, доктара філалагічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта НАНБ, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі.***

Да 75-годдзя з дня нараджэння М.Лазарука ў бібліятэцы — філіяле № 1 Слуцкай гарадской цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы — былі арганізаваны выстава "Нястомны працаўнік асветы" і вечарына памяці "Дала мне маці гэту мову".

На вечарыну былі запрошаны чытачы, бібліятэкары, настаўнікі, родныя і блізкія М.Лазарука. Сваімі ўспамінамі пра Міхаіла Арсеньевіча падзялілася яго жонка Тамара Канстанцінаўна. Тамара Арсеньеўна Клепікава, сястра М.Лазарука, расказала пра яго дзіцячыя і юнацкія гады. Удзел у вечарыне прыняў доктар філалагічных навук, загадчык лабараторыі літаратурнай адукацыі Алесь Іванавіч Бельскі, які працягвае справу і задумкі Міхаіла Арсеньевіча. Цікавым было выступленне вядучага навуковага супрацоўніка Нацыянальнага інстытута адукацыі, паплечніка Лазарука Міхаіла Сцяпанавіча Крота. Ён расказаў пра творчы і жыццёвы шлях Міхаіла Арсеньевіча як вучонага і педагога.

Са словамі ўдзячнасці ад імя прысутных выступіла Зоя Іванаўна Падліпская, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, кіраўнік гуртка "Парасткі". На вечарыне прагучалі вершы пляменніка Міхаіла Арсеньевіча Ігара Клепікава, якія былі напісаны ў дзень смерці вучонага.

Калегі М.Лазарука падаравалі бібліятэцы метадычную літаратуру, кнігі і падручнікі пад яго рэдакцыяй.

**Галіна САСІНОВІЧ,**
**загадчыца бібліятэкі — філіяла № 1 Слуцкай гарадской ЦБС.**

Спорт

# На рынг выходзяць студэнты

***Да самых цікавых відаў спорту можа быць аднесены бокс. І аб гэтым асабліва сведчыць наступны матэрыял.***

У праграме спартакіяды сярод вышэйшых навучальных устаноў, якую праводзіць Рэспубліканскі цэнтр фізічнага выхавання і спорту навучэнцаў і студэнтаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, вельмі цікава праходзяць спаборніцтвы баксёраў. Свае адносіны да гэтага віду спорту ў Магілёве вызначалі 67 атлетаў з 11 каманд. У іх ліку — практычна ўвесь рэзерв галоўнай каманды — два майстры спорту міжнароднага класа, восем майстроў, 21 кандыдат.

Па традыцыі ў дзвюх намінацыях — камандным і асабістым заліку — падводзіліся вынікі.

У катэгорыі да 48 кг перамогу атрымаў Канстанцін Сахарук з Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі. У сваіх вагавых катэгорыях 51, 54, 57, 60, 63,5, 71, 75, 81, 91 кг удала выступілі Пётр Карачун, Дзмітрый Мельнікаў з гэтай жа ВНУ, Дзмітрый Трус, Міхаіл Бянускі, Вячаслаў Пашкоў, Аляксандр Палуянаў, Павел Сямёнаў з Міжнароднага гуманітарна-эканамічнага інстытута, Кірыл Лопухаў і Андрэй Жураўкоў з Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта, Канстанцін Тупацілаў з Беларускай дзяржаўнай акадэміі фізічнай культуры.

У спаборніцтве сярод дружын у першай групе ВНУ перамагла Беларуская дзяржаўная акадэмія фізічнай культуры. На другім і трэцім месцы адпаведна Магілёўскі і Брэсцкі дзяржаўныя універсітэты.

Прызёрамі другой групы з'яўляюцца: Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія, дзяржаўныя педагагічны і эканамічны універсітэты.

У трэцяй групе выйгралі Міжнародны гуманітарна-эканамічны інстытут, а таксама Беларускі дзяржаўны агратэхнічны і Магілёўскі дзяржаўны тэхналагічны універсітэты.

Спаборніцтвы праведзены на добрым спартыўным узроўні. Асаблівы інтарэс выклікаў ва ўсіх прысутных паядынак, які адбыўся паміж баксёрамі Сямёнам Рамаnoўскім і Вячаславам Пашковым з Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта і Міжнароднага гуманітарна-эканамічнага інстытута ў вагавай катэгорыі 60 кг. З лікам 2:1 выйграў апошні.

Такое цікавае завяршэнне меў толькі гэты бой. Астатнія ж фінальныя схваткі закончыліся датэрмінова.

Варта зазначыць, што да нядаўняга часу студэнцкі бокс не меў асаблівага распаўсюджання. У гэтым накірунку ў апошнія два гады зроблены пэўны крок наперад. Таму пацвярджэнне — старт, які адбыўся ў Магілёве. І ёсць усе надзеі на тое, што ён будзе развівацца яшчэ больш актыўна.

**Пётр ШУБЯНОК.**

Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-40-63; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-41-55; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Святлана БЕНЬ.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №4055
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 18.7.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.